Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

ІВАЦЭВІЧЫ – БАРАНАВІЧЫ – БЯРОЗА

# Газета для вас

2 ліпеня
1997 года
СЕРАДА
№ 29
Наш індэкс
63834

Цана па падпісцы – 750 руб.
Цана ў розніцу – 1.000 руб.

## ЗАЎТРА – ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ. СА СВЯТАМ!

## ЧАС МЯСЦОВЫ

### Прах ахвяраў стукае ў сэрцы

**БЯРОЗА.** Прадстаўнікі яўрэйскіх суполак з ЗША і Ізраіля пабывалі ля помніка ахвярам фашызму на Броннай Гары. Тут, у гэтым трагічным месцы, расстрэльваліся звезеныя з розных гарадоў Беларусі (Баранавічаў, Пінска, Івацэвічаў, Бярозы) яўрэі – дарослыя і дзеці. Замежныя госці ўсклалі кветкі да помніка, дзе пахавана больш за 50 тысяч чалавек. Яны выканалі нацыянальныя песнапенні ў памяць аб нявінных ахвярах фашызму, схіліўшы нізка галовы і змахваючы з твараў слёзы.

На ўрачыстасці прысутнічалі жыхары Броннай Гары, дзеці з мясцовага дзіцячага садка. Паміж гасцямі і мясцовымі жыхарамі ўзніклі шчырыя размовы і разуменне: прах нявінных ахвяраў усім стукае ў сэрцы праз многія гады.

На месцы расстрэлаў і пахавання ахвяраў фашызму плануецца ўзвядзенне мемарыяльнага комплексу. Сродкі на гэта збіраюцца яўрэйскімі суполкамі за мяжой.

### Там, дзе нарадзіўся вялікі паэт

**БАРАНАВІЧЫ.** На хутары Завоссе, што ў Мядзеневіцкім сельскім Савеце, вядуцца рэстаўрацыйныя работы па абнаўленню сядзібы, дзе нарадзіўся вялікі польскі паэт Адам Міцкевіч.

Брыгада рэстаўратараў з Мінска на месцы былога маёнтка ўзвяла ўжо двухпавярховы свіран, кароўнік, гумно, прывяла ў парадак возера. Цяпер узводзіцца будынак для будучага музея.

Усе аднаўленчыя работы мяркуецца закончыць да 200-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча, якое будзе адзначацца ў наступным годзе.

### Ідзе паляванне на ваўкоў

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Інжынер тутэйшага лясгаса І. У. Бакіевіч не першы год палюе на ваўкоў, добра ведае іх звычкі і месцы знаходжання.

– Па назіраннях спецыялістаў, ваўкоў у нашых лясах развялося столькі, што не знішчаць іх проста нельга, – кажа вопытны паляўнічы. – Драпежнікі вынішчаюць іншых насельнікаў лясных гушчароў. Таму аб'яўлена шэрым нежартоўная вайна.

Іосіф Уладзіміравіч сёлета стаў пераможцам рэспубліканскага конкурсу з немудрагелістай назвай „Барацьба з ваўком на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь", праводзімага штогод Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. На асабістым рахунку паляўнічага-ваўкара 24 дарослых шэрых. Ніхто ў рэспубліцы не змог забіць больш, таму І. У. Бакіевічу прысуджаны першае месца і грашовая прэмія. У выглядзе дадатковага заахвочвання ён атрымае ліцэнзію на здабычу дзікіх капытных жывёл у сёлетнім паляўнічым сезоне.

### Апладысменты барду

**БАРАНАВІЧЫ.** Па запрашэнню Задзіночання беларускіх студэнтаў горада і творчага згуртавання „Святліца" ладзіў свой канцэрт „прынц беларускай бардаўскай песні" з Гомеля Зміцер Бартосік. Гэты чалавек нарадзіўся ў Расіі, але піша і спявае свае песні толькі на беларускай мове.

Канцэрт адбыўся ў доме мастацтва (былы гаркам партыі). Зміцер Бартосік выканаў свае лепшыя, найбольш вядомыя песні на сучасныя і гістарычныя тэмы.

Газета „Наша ніва" наладзіла продаж касет беларускіх выканаўцаў, кніг ды значкоў з рэкламай беларускіх рок-гуртоў. Бясплатна раздавалася газета „Музычны квартал" з артыкулам пра Зміцера.

Пасля канцэрта Бартосік адказаў на пытанні слухачоў ды падпісаў жадаючым свае касеты з альбомам „Да пабачэння".

● ФОТАСЮЖЭТ



*Разляцеліся дзеці, як птушкі,*
*і забыліся пра цябе.*
*Гараваць з адзінотай ты*
*мусіш,*
*спавядацца ты мусіш журбе.*

*Год за годам –*
*не зніклі за даллю,*
*а па твары сплылі*
*ў раўчуках.*
*Маладосць яны ўсю*
*абабралі,*
*старасць толькі дрыжыць*
*у руках.*

*Сіл няма і надзеі –*
*таксама.*
*Нават страху даўно ўжо*
*няма.*
*Часу ж жыць засталося*
*так мала,*
*дзесьці знікла*
*крыніца святла.*

*Толькі бусел табе спачувае,*
*ды рыпяць верхавіны ялін.*
*Крыкнеш голасам,*
*поўным адчаю, –*
*рэхам стогн паляціць*
*па зямлі.*

*Фота А. ГАНЧУКА.*

### Зря время "не теряла"

**БЕРЁЗА.** Как уже сообщала наша газета, в инфекционном отделении Белоозерской городской больницы в марте–апреле с. г. находилась на лечении больная, приехавшая из Светлогорска. Взятая, как обычно, на анализ кровь, оказалась зараженной ВИЧ-инфекцией. Удивлению и испугу белоозерских медиков не было конца, поэтому кровь во избежание ошибки была направлена на тестирование в Минск. Проведенные исследования подтвердили, что ошибки нет. Светлогорская гостья, к тому же оказавшаяся наркоманкой, действительно оказалась больной чумой XX века – СПИДом.

Как и положено в таких случаях, выяснением её связей занялись сотрудники милиции Березовского РОВД. И, увы, оказалось, что 29-летняя гостья Белоозерска „не теряла" времени зря. Установлены пятеро мужчин, которые вступали с нею в случайные половые связи. Один из них – военнослужащий.

В Белоозерске ходят слухи, что больная СПИДом наркоманка вскоре вновь приедет отдыхать к родственникам. Граждане – мужчины, сексуально озабоченные! Поберегите свою страсть для законных жён! Это сохранит вам жизнь и здоровье!

### Суд скорый. И правый?

В феврале сего года средства массовой информации поразили слушателей и читателей республики сенсацией об аресте депутата Верховного Совета 13-го созыва Владимира Кудинова. Крупный предприниматель, финансист и экономист, а потом и народный избранник, В. Кудинов несомненно был той фигурой, которая подходила для сценария этой сенсации. А такой сценарий существовал, а после гениально осуществлен, утверждали оппозиционные депутаты Верховного Совета 13-го созыва, которые не признали законность результатов последнего белорусского референдума. Не признал эту законность и Владимир Кудинов, к тому же его подпись стояла под документом об импичменте Президенту. Его арестовали за дачу взятки начальнику поста дорожно-патрульной службы около деревни Левковщина Борисовского района. Сам В. Кудинов, как нам известно из компетентных источников, и во время ареста, и во время следствия, которое длилось почти пять месяцев, факта дачи взятки не признал и считает случившееся с ним обыкновенной политической провокацией.

Сейчас следствие по делу В. Кудинова закончено, и материалы по решению Минского областного суда направлены для судебного разбирательства в суд г. Борисова. В. Кудинов обвиняется в факте дачи взятки. Все остальные попытки следствия найти криминал в хозяйственной деятельности торгово-промышленной фирмы „Ивацевичи", которую он возглавлял, не увенчались успехом. Более того, 7 апреля с. г. Брестский хозяйственный суд признал акты проверки ТПФ „Ивацевичи" государственными налоговыми инспекциями по Ивацевичскому району и Брестской области в части налогов, пени и штрафов, связанных с невыплатой налогов, недействительными. Нам неизвестно, будут ли наказаны те служебные лица из налоговых инспекций, которые вот таким образом „ошиблись", проверяя деятельность фирмы.

Неизвестно также, получат ли хоть какое-нибудь замечание те средства массовой информации, которые в погоне за сенсацией и в желании продемонстрировать свое усердие перед властьимущими искажают информацию, касающуюся дела В. Кудинова. Так, недавно республиканская „Звязда", а вслед за ней районная газета „Івацэвіцкі веснік" сообщили своим читателям, что автофургон с мясом, который якобы посредством взятки пытался „вызволить" около Левковщины В. Кудинов, принадлежал его жене. Но общеизвестно, что жена В. Кудинова к хозяйственной деятельности ТПФ „Ивацевичи" никакого отношения не имела и, естественно, в своей собственности автофургона не имела тоже. З. Кудинова намерена по факту такой дезинформации и, как она считает, откровенной её травли обратиться с иском в суд.

Итак, суд над В. Кудиновым будет. О судебном разбирательстве и его результатах мы сообщим вам, уважаемые читатели и подписчики нашей газеты.

### БПСМ – гадавальнік Карчагіных?

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Хто такі Карчагін, здаецца, мы яшчэ не забыліся. Якія адносіны мае герой нашага мінулага да цяжка выгаворваемай абрывіятуры БПСМ, запытаецеся вы. Самае, як лічаць стваральнікі Беларускага патрыятычнага саюза моладзі (вось і атрымліваецца БПСМ), прамое. БПСМ хоча, абапіраючыся на слаўнае гіраічнае мінулае, выхоўваць патрыётаў.

У Івацэвіцкім раёне, як сцвярджаюць работнікі наваствоpанага райкама БПСМ, налічваецца 959 членаў маладзёжнай арганізацыі. Яны ўжо нават сваю ўстаноўчую канферэнцыю правялі нядаўна. Цікава, што на ёй прысутнічаў і благаславіў раённую арганізацыю БПСМ благачынны цэркваў Івацэвіцкай акругі айцец Рыгор. І тут неяк само напрошваецца пытанне: а што б сказаў Карчагін ды і камсамольцы 20–50-ых гадоў па гэтай прычыне? Яны ж папоў ні на дых не пераносілі, ды „мракобесами" іх клікалі.

Але, як гаворыцца, час ідзе, усё мяняецца. Мо і БПСМ будзе выхоўваць відазмененых Карчагіных? Цяпер жа наўрад знойдуцца ахвотнікі жыццё палажыць на будаўніцтва вузкакалейкі ці нават БАМа. Тым больш ніхто, напэўна, не выношвае планаў аб вызваленні ўсяго чалавецтва, бо яно неяк нікога аб гэтым і не просіць...

